Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

23—29 студзеня 1999 года
№ 4 (162)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Ваенная спадчына перайшла да новага гаспадара

На аўкцыёне, што праводзіўся напярэдадні Новага года, выстаўляўся на продаж маёмасны комплекс з дзесяці будынкаў у вёсцы Волька, які раней належаў размешчанай тут воінскай часці. Таргі праводзіліся з прымяненнем галандскага метаду, заснаванага на паніжэнні аб'яўленай першапачатковай цаны. Ваенная спадчына перайшла ў рукі адкрытага акцыянернага таварыства "Будсэрвіс" (дырэктар В. Крываль). Новы гаспадар плануе адкрыць у будынках сталярны і швейны цэхі, арганізаваць вязальную вытворчасць, наладзіць грыбабарэнне.

За кошт продажу аб'екта камунальнай уласнасці раённы бюджэт папоўніўся 1 мільярдам 850 мільёнамі рублёў.

### У Косава — свой герб

У горадзе Косава з'явіўся свой герб. Распрацоўвала яго камісія на чале са старшынёй гарвыканкама Т. П. Хінко. Зрабіў малюнак герба мастак С. К. Максімцаў.

Герб уяўляе сабой шчыт варажскі. Па форме ён нагадвае звычайны прас, вострая частка якога знаходзіцца знізу. На блакітным полі гэтага шчыта змешчаны Косаўскі палац, што ва ўрочышчы Марачоўшчына (белага колеру). Вышэй палаца намалявана вялікакняжацкая карона (белага колеру).

Яшчэ адна асаблівасць герба. На фоне палаца намаляваны герб Адравадж, які з'яўляўся сімвалам сям'і Храптовічаў, першых уладальнікаў Косава.

Распрацавана таксама палажэнне аб гербе горада.

### Добра папрацуеш — соладка паясі

Добры ўраджай цукровых буракоў парадаваў і кіраўніцтва калгаса "Любішчыцы", і тых землеробаў, якія працавалі на калгасных палях. Некаторыя з вяскоўцаў атрымалі проста фантастычную колькасць "прызавога" цукру. Так, пенсіянер Аляксандр Купрыянавіч Макар, апрацаваўшы больш за гектар, атрымаў рэкордную колькасць ураджаю салодкіх карэнняў і 485 кілаграм цукру — на 16 млн. 5 тысяч рублёў.

На другім месцы — пенсіянерка Надзея Антонаўна Блоцкая. Яна атрымала 466 кілаграмаў цукру — на 15 мільёнаў 375 тысяч. На трэцім — палявод Аляксандра Рыгораўна Бахур — 438 кілаграмаў на 14 мільёнаў 454 рублёў. Заняўшым першыя два месцы ўручана яшчэ па 50 кілаграм цукру бясплатна. Такім чынам, сярэдні кошт "прызавога" цукру — 33 тысячы за кілаграм.

### Трагедыя на будаўнічай пляцоўцы

На гэтым тыдні няшчасны выпадак здарыўся на будаўніцтве 18-кватэрнага жылога дома ў Івацэвічах, які ўзводзяць будаўнікі ПМК аблспажыўсаюза.

Падчас перакрыцця трэцяга паверха, выраўноўваючы сцяну, з рыштаванняў упаў 38-гадовы муляр і загінуў. Ён — з Белаазёрска, бацька дваіх дзяцей.

Цяпер пракуратура раёна высвятляе абставіны гібелі будаўніка.

### Зімовая купель

Адліга, якая прыйшла ў студзеньскія дні, нарабіла бяды для жыхароў вуліцы Цэнтральнай у вёсцы Стайкі. Узняўся ўзровень грунтовых вод і падтапіў падвалы ў чатырох дамах: давялося ратаваць бульбу і гародніну, якую назапасілі на зіму. Трывога ахапіла яшчэ восем сем'яў, у чые хлявы і склепы таксама трапіла вада.

Дзякуючы аператыўным дзеянням штаба грамадзянскай абароны і раённага Савета дэпутатаў наступствы паводкі ліквідаваны. Пацярпеўшых наведалі агенты прадстаўніцтва Дзяржстраха па Івацэвіцкаму раёну, каб падлічыць урон, нанесены стыхіяй, і аказаць вяскоўцам грашовую дапамогу.

ПРУЖАНЫ

### Другое нараджэнне палаца

Дзяржаўная камісія Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры Міністэрстве культуры Беларусі падпісала акт прыёмкі Пружанскага гістарычнага палаца, над аднаўленнем якога шэсць гадоў працавалі рэстаўратары.

Як паведаміў кандыдат гістарычных навук Леанід Несцярчук, арыгінальны палацава-паркавы ансамбль на паўночнай ускраіне Пружан быў створаны ў другой палове мінулага стагоддзя па рашэнні новага ўладальніка горада Валенты Швыкоўскага. З-за таго, што гаспадар маёнтка падтрымаў нацыянальна-вызваленчае паўстанне, царскія ўлады канфіскавалі палац. Да 1939 года ў будынку размяшчаліся мясцовыя ўлады і жыў староста горада. Пасля другой сусветнай вайны тут знаходзіліся паліклініка і дзіцячы садок. Дзякуючы фінансавай падтрымцы дзяржавы, палац адноўлены.

У недалёкім будучым тут будзе адчынены музей-сядзіба, які збярэ самыя цікавыя і рэдкія экспанаты з гісторыі краю.

### Грант з Амерыкі

Пружанская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам атрымала грант ад амерыканскага Альянса Каунтэрпарта. Сума выдаткавана важкая — 15.100 долараў ЗША. На гэтыя сродкі амерыканскі бок даставіць тэхналагічнае абсталяванне для выпуску бульбяных чыпсаў, вырабам якіх зоймуцца восем падлеткаў-інвалідаў. Памяшканне, дзе плануецца змантціраваць замежную лінію, выдзяляе адкрытае акцыянернае таварыства "Пружанскі малочны завод".

Пакуль нашы чыноўнікі гладка разважаюць пра клопаты аб дзецях-інвалідах, амерыканцы справай дапамагаюць у іх працаўладкаванні.

### Будущее Беларуси — в руках молодых

17 января в районной детской библиотеке собрались дети в возрасте 11—15 лет. Повод для встречи был. МО "Гражданский форум" объявляла победителей конкурса рисунков "Мая краіна — Беларусь", который длился 3 недели. Но после награждения работы можно смотреть еще две недели. Выставка имеет большой успех. Многие даже предлагают купить несколько детских работ. Очень красивые рисунки Попко Жанны. Это — не удивительно. Она учится в художественной школе. Первое место заняла Немирович Анна (СШ № 5). Второе место у той же Попко Жанны (СШ № 2). Ну, а третье у Чернякевича Славы (СШ № 1). Кроме этих трех мест, были еще пять поощрительных.

Большую признательность организаторы и участники конкурса выражают работникам детской библиотеки, директору Дома культуры и многим предпринимателям, которые помогли буквально во всём. Из этой выставки можно сделать главный вывод: будущее Беларуси — в надежных детских руках.

## ДАПАМАЖЫЦЕ, ЛЮДЦЫ!



Я — маці пецярых дзяцей. Працую кінамеханікам. Месячны мой заработак — паўтара мільёна рублёў. Муж зарабляе каля двух мільёнаў рублёў. Нядаўна я моцна захварэла, а на лячэнне патрэбны вялікія грошы. Толькі адзін укол каштуе 1 мільён 117 тысяч рублёў. А на курс лячэння такіх уколаў трэба не менш дваццаці. Як выйсці са становішча, што склалася? За свае сродкі я магу купіць не больш двух уколаў. А як быць далей? Можа ў нашым рэгіёне (а гэта Івацэвіцкі, Баранавіцкі, Бярозаўскі і Пружанскі раёны) знойдуцца забяспечаныя жыхары, якія дапамогуць мне, каб купіць тых уколаў і хоць крыху паправіць сваё здароўе. Адгукніцеся, добрыя людзі — усё жыццё маліцца за вас буду!

**МОЙ АДРАС: 225260, Івацэвіцкі раён, пасёлак Зялёны Бор, вул. Цэнтральная, 8А, кв 23.**

**Вера Андрэеўна ЕЎТУХ.**

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*АНЯ. Мне 23 года. Я обожаю слушать "Молодежный канал" и "Радио-1". Люблю смотреть старые фильмы. Любимое время года — лето и, конечно, осень, осень с особым запахом костров, ветра. С желтыми и красными листьями... Люблю читать романы о любви.*

БЯРОЗА

### Разам — сіла

Дасягнулі-такі поспеху ў сваім трохгадовым змаганні з камунальнікамі за гарачую ваду жыхары дамоў № 1, 2, 3, 6 па вуліцы Энергетыкаў. 16 сямей паставілі свае подпісы пад зваротам да старшыні райвыканкама сп. І. Малейціна. І калі пасля першага звароту (перад дажынкамі), праблема была вырашана толькі часткова, то другі ліст (перад Новым годам) і пагрозы звярнуцца да прэзідэнта прымусілі камунальнікаў шукаць сродкі на трубы, каб падключыць дамы да бліжэйшай кацельні (раней падача была ад кацельні маторарамонтнага завода).

### Праблемы з бензінам

Папярэдняя палітыка ў цэнаўтварэнні на паліва: у адносінах з расійскімі пастаўшчыкамі нафты ў Беларусь і ў рэгуляванні Нацбанкам валютнага курсу прывялі да сённяшніх праблемаў з палівам. Добра, як у суседа ёсць запас, і можна пазычыць, а як не? Кошт на фірмавых запраўках Берасця 92-га і 95-га бензінаў дасягае ўжо пад 100 тысячаў "зайцоў" (і гэта нармальна па еўрапейскіх мерках, калі лічыць па рынкавым курсе даляра). Толькі вось, каб мець яшчэ і еўрапейскія заробкі, трэба перайтварыць эканоміку на еўрапейскі ўзровень.

БАРАНАВІЧЫ

### Макавае багацце

Буйны "клад" макавай саломкі выявілі праваахоўныя органы ў вёсцы Анісімавічы. У хаце беспрацоўнага селяніна захоўвалася ажно 37 кілаграмаў наркатычнага зелля, расфасаванага ў 53 поліэтыленавых мяшэчкі. Гаспадар дома адмаўляецца ад гэтага "багацця", сцвярджае, што яно належыць яго былому кватаранту — прадстаўніку цыганскай нацыянальнасці з расійскага горада Новакузнецка. Наркабізнесмен затрыманы, вядзецца следства.

### Лекі з касцёла

Дзве тоны парашку глюкозы ад заходніх сяброў атрымаў рымска-каталіцкі касцёл Боскай Маці Фацімскай. Можна было б лякарства размеркаваць паміж вернікамі, але яны пайшлі іншым шляхам: рашылі аддаць каштоўны парашок тым, хто мае ў ім патрэбу. Ксёндз Уладзімір перадаў глюкозу абласному ўпраўленню аховы здароўя, якое накіруе лякарства ў розныя лячэбныя ўстановы Брэстчыны.

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ, А. ЛАЎРАНЮК (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы), прэс-служба МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны) і фотакарэспандэнт А. ГАНЧУК.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Гарэлка зноў падаражэла на 10 працэнтаў. Пакуль

***З панядзелка, як і чакалася, зноў падаражэла белая гарэлка айчыннай вытворчасці. Праўда, цэны, у параўнанні з папярэднім, выраслі не намнога — усяго на 10 працэнтаў.***

Вось як выглядае сённяшні прэйскурант цэн на гарэлку. Найбольш дарагой застаецца (бутэлька 0,5 л "пад вінт") "Беларусь сінявокая" (Брэсцкі ЛГЗ) — 207 тысяч рублёў. У гэтым жа цэнавым радзе знаходзяцца "Люкс" — 206.900, "Крышталь-люкс" — 206.600 і "Белая Русь" — 206.200 рублёў. Далей па цэнах ідуць "Беларусь" — 203.300, "Сталіца" — 201.200 і "Крышталь-100" — 197.600 беларускіх разліковых білетаў. Гарэлкі "Пшанічная", "Маскоўская" і "Сталічная" цяпер "важаць" па 193.200 рублёў кожная. Найбольш таннымі застаюцца "Руская" — 192.800 і "Два буслы" —189.000 рублёў.

## Зробім грошы на шклатары?

***З 17 студзеня на 40—50 працэнтаў павялічылася закладная цана шклатары.***

Сёння каньячная бутэлька 0,65 л будзе прымацца ў насельніцтва па цане 7 тысяч рублёў ( раней была 5 тысяч рублёў), піўная — 6 тысяч рублёў (4 тысячы рублёў). Гарэлачная бутэлька з "вінтом" 0,5 л зараз каштуе 11 тысяч рублёў (7 тысяч рублёў), ёмістасць 0,7—0,8 л з "вінтом" — 12 тысяч рублёў (7500 рублёў). Бутэлькі з-пад напітку 0,33 літра падаражэлі на 2 тысячы рублёў — прымаюцца ўжо па 5 тысяч рублёў.

Слоікі таксама значна падскочылі ў цане. Слоікі для кансерваванай прадукцыі 0,2—0,25 л — 3,3 тысячы рублёў (2200 рублёў). Слоікі 0,5—0,8 л зараз каштуюць 4,5 тысячы рублёў (3000 рублёў), літровы — 7,2 тысячы рублёў (4800 рублёў), 2-літровы — 10,8 тысячы рублёў (7200 рублёў), 3-літровы — 18 тысяч рублёў (12 тысяч рублёў).

## Партыя працы падтрымлівае рашэнне аб прызначэнні даты выбараў прэзідэнта

Савет Беларускай партыі працы выказаў адабрэнне і падтрымку рашэння дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання аб прызначэнні даты выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і лічыць, што яно адпавядае Канстытуцыі краіны.

## Паслы ўзяліся за працу

***Паслы пяці краінаў Еўрапейскага саюза, якія вярнуліся ў Беларусь, прыступілі да кансультацыяў.***

Нагадаем, што кіраўнікі дыпламатычных місіяў пакінулі нашую краіну 22 чэрвеня мінулага года пасля прымусовага высялення з рэзідэнцыяў у комплексе Дразды. Дыпламатычны канфлікт пакуль канчаткова не вырашаны. Не прыехаў у Мінск разам з калегамі краінаў ЕС амерыканскі пасол.

Па словах Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Вялікабрытаніі Джэсікі Пірс, пасля вяртання дыпламаты краінаў ЕС правядуць кансультацыі з беларускім бокам.

*БелаПАН.*

## Семінар клуба выбаршчыкаў

***Як вядома, прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка сваім указам прызначыў на 4 красавіка г. г. выбары ў мясцовыя Саветы. У той жа час дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія засталіся вернымі Канстытуцыі Беларусі 1994 г., прынялі Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб правядзенні 16 мая 1999 г. выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Безумоўна, розныя грамадзяне, палітычныя сілы неадназначна ставяцца да гэтых дзвюх выбарчых кампаніяў.***

У нядзелю, 17 студзеня, Усебеларускі клуб выбаршчыкаў правёў у Бярозе і Белаазёрску семінары па навучанню наглядальнікаў на выбарах. Выступоўцы пазнаёмілі прысутных на семінарах з выбарчым заканадаўствам Беларусі і паказалі шэраг нормаў закона аб мясцовых выбарах, якія не адпавядаюць нават прэзідэнцкай Канстытуцыі 1996 г. і параўналі беларускае з выбарчым заканадаўствам Расіі і іншых краінаў (на жаль, і тут параўнанні былі не на карысць Беларусі), распавялі пра вопыт нагляданняў за выбарамі АБСЕ, патлумачылі ролю наглядальнікаў падчас правядзення выбараў і магчымыя дзеянні наглядальнікаў пры тых ці іншых парушэннях.

*С. РУСЕЦКІ.*

ГОЛАС НАРОДА

***Як паказаў час, да зялёнай паперкі з выявамі палітычных дзеячоў ЗША мінулых стагоддзяў нашы суграмадзяне адносяцца па-рознаму. У многіх адносіны да долара спакойныя, асабліва ўлічваючы, што цэны, выплаты, паслугі ў нас ажыццяўляюцца ў родных "зайцах", таму многія з нашых суграмадзян толкам "зялёны" і не бачылі.***

***Але ў некаторых адносіны, так бы мовіць, не складіся. У тым сэнсе, што долар яны лічаць галоўным "вредителем-грабителем" у нашай рэспубліцы і што яго трэба вывесці з абарачэння. Дык ці варта нам забараніць долар? Вось якія адказы мы пачулі на гэты раз на вуліцах г. Івацэвічы.***

## ЦІ ВАРТА НАМ ЗАБАРАНІЦЬ ДОЛАР?

**Віктар Іванавіч:** Навошта забараняць такую універсальную валюту? Трэба забараняць тых дурняў, якія гавораць розную лухту і здзекуюцца над "зайцам".

Вось надумаю я сення вечарам з'ездзіць на Украіну. І што я там буду з беларускімі рублямі рабіць (разводзіць рукамі)? Хай менш друкуюць пустых грошай, каб нашы родныя не ператварыліся, прабачце, у туалетную паперу. Мне здаецца, тыя, хто абвінавачвае долар, шукаюць вінаватага не ў тым месцы.

**Ніна Мікалаеўна:** Я не разумею, прычым тут долар. Долар — гэта ж грошы, усяго толькі сродак плацяжу, накаплення. Мы ж ім нідзе не плоцім. Хоць запасіць грошы лепш у гэтай валюце. Сення, прабачце, самая замшэлая бабулька не стане захоўваць "зайцы" ні ў панчосе, ні ў банку. Дык зрабіце ж вы свае грошы ўстойлівымі і паважанымі! Тады людзі будуць менш звяртацца да СКВ. Сама ж дзяржава бярэ ў народа валюту пад мізэрныя працэнты, круціць дзесьці. Хай дзякуй яшчэ скажуць гэтаму долару.

**Дзіма:** А дзе ж гэты долар можна ўбачыць? Ён жа нідзе не ходзіць. Нібы той злачынец, пра якога ўсе гавораць і якога ніхто не можа вылавіць. Хоць, з іншага боку, напэўна, ёсць людзі, у якіх тых "зялёных" шмат. Ці забараніць? Не ведаю. Гэта ж такая паважаная валюта ва ўсім свеце. Мне здаецца, калі і забараніць гэты долар, то яму ад гэтага горш не стане.

***АД АЎТАРА. Як паказала наша бліц-апытанне, асабліва нянавісці да зялёнай паперкі нашы суграмадзяне не маюць. Што й зразумела. Долар, як і іншыя грошы, з'яўляецца, так бы мовіць, градуснікам, што паказвае на тэмпературу нашага фінансавага існавання. І не больш таго. Абвінавачваць долар — гэта тое самае, што абвінавачваць градуснік за тое, што на вуліцы мароз. Можна гэты градуснік разбіць, утапіць, але ж ад гэтага мароз не знізіцца ні на ёту.***

***З другога боку, незразумела — чаму некаторыя суграмадзяне лічаць долар ледзь не пасланцом Бога. Ён, можа, і паважаны ва ўсім свеце ці дзе-небудзь у Хадаках, але ён толькі ўстойлівы сродак плацяжу ці накаплення, як і нямецкая марка ці французскі франк, якія нічым не горшыя, а па некаторых пазіцыях і больш устойлівыя, чым долар.***

***Іншая справа, што не маючы сваёй устойлівай грашовай адзінкі, кепска, што нашым людзям прыходзіцца звяртацца да замежнай.***

*А. ГОРБАЧ.*

КОЛЬКІ МЫ ПЛАЦІМ

## Цэны і паслугі

### Білетныя касы

| | |
|---|---|
| **у цягніку** да Масквы | — 2 млн. 800 тыс. (плацкарта) |
| да Санкт-Пецярбурга | — 3 млн. 100 тыс. (плацкарта) |
| да Мінска | — 86000 (плацкарта) |
| да Баранавіч | — 15000 (электрычка) |
| да Брэста | — 33000 (электрычка) |
| да Бярозы | — 8800 (электрычка); |
| **у аўтобусе** да Брэста | — 172000 |
| да Баранавіч | — 106000 |
| да Бярозы | — 36000 |
| да Целяхан | — 48000 (62000 — камерцыйны) |
| да Быцені | — 33000 (41000 — камерцыйны) |
| да Косава | — 17600; |

### Прыватнае таксі

| | |
|---|---|
| да Целяхан | — 1 млн. 800 тысяч |
| да Косава | — 600 тысяч |
| да Быцені | — 1 мільён; |

### КБА

| | |
|---|---|
| мужчынская стрыжка | — 102 тысячы |
| жаночая стрыжка | — 112 тысяч |
| завіўка | — 432 тысячы |
| асвятленне (меліраванне) | — 270 тысяч |
| фота ( на пашпарт) | — 220 тысяч |
| хімчыстка | — 300 тысяч (паліто) |
| рамонт абутку | — 120 тысяч (падклеіць падэшвы) |
| пракат тэлевізара | — 288 тысяч (у месяц); |

### Гарпаліва

| | |
|---|---|
| вугаль | — 950 тысяч (тона) |
| брыкет | — 500 тысяч (тона) |
| дровы | — 850 тысяч (10 склад. метраў) |
| распілоўка дроў | — 630 тысяч (10 склад. метраў); |

### ЗАГС

| | |
|---|---|
| распісаць маладых | — 550 тысяч |
| развод | — 300 тысяч; |

### Музычная школа

| | |
|---|---|
| баян | — 150 тысяч (у месяц) |
| скрыпка | — 120 тысяч (у месяц); |

### Кінатэатр

| | |
|---|---|
| білет за ўваход | — 20000 (2 серыі); |

### Гасцініца

| | |
|---|---|
| аднамесны нумар | — 478 тысяч (за суткі); |

### Лазня

| | |
|---|---|
| плата за ўваход | — 50 тысяч; |

### Рытуальныя паслугі

| | |
|---|---|
| вянок (натуральны) | — 320 тысяч |
| вянок (штучны) | — 1 млн. 358 тысяч |
| труна | — 960 тысяч |
| крыж | — 106 тысяч; |

### Царкоўныя паслугі

| | |
|---|---|
| вянчанне | — 2 мільёны |
| хрышчэнне | — 600 тысяч |
| пахаванне | — 1 мільён; |

### Аўтазаправачная

| | |
|---|---|
| бензін (Аі-76) | — 1 долар за 5 літраў |
| бензін (Аі-92) | — 3 долары за 10 літраў |
| бензін (Аі-95) | — 2 долары за 5 літраў |
| дызпаліва | — 1,5 долара за 10 літраў |

(за беларускія рублі бензіну і дызпаліва няма);

### Натарыус

| | |
|---|---|
| складаная кансультацыя | — 50 тысяч; |

### БелАСТТ

| | |
|---|---|
| плата за навучанне на катэгорыю "В" | — 15 млн.; |

### Юрыдычная кансультацыя

| | |
|---|---|
| вусная парада | — 100 тысяч (тэма развода); |

### Медвыцвярэзнік

| | |
|---|---|
| разавы штраф | — 800 тыс.—1 млн. 300 тысяч. |

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 21.01.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 300—340 | 260—350 | 330—360 | 360 |
| Сала салёнае | 270—300 | 350 | 330—350 | 290—300 |
| Алей (1 л) | 220—330 | 370 | 240—250 | 240—300 |
| Яйкі | 90—110 | 80—100 | 100 | 85—110 |
| Малако (3 л) | 40 | 50—60 | 45 | 36 |
| Тварог | 60 | 65 | 60 | 60 |
| Масла сметанк. | 200 | 250 | 240 | 200 |
| Цыбуля рэпч. | 60—70 | 100—160 | 75—80 | 60—70 |
| Капуста | 10—15 | 20—40 | 13—15 | 15 |
| Бульба | 12—15 | 15—20 | 10—14 | 13—16 |
| Морква | 12—15 | 10—20 | 15 | 15 |
| Часнок | 140 | 130—140 | 150 | 120—150 |
| Яблыкі | 70—90 | 80—120 | 90—130 | 70—100 |
| Лімоны | 380 | 290 | 320 | 450 |
| Апельсіны | 270 | 240—290 | 310 | 260—290 |
| Бананы | 270 | 270 | 295 | 340 |
| Грэчка | 140 | 140 | 130 | 150 |
| Макар. вырабы | 110—120 | 70—90 | 110 | 110—130 |
| Рыс | 170 | 170 | 150—176 | 180 |
| Цукар | 105 | 110 | 100 | 120 |
| Мёд | 600 | 600—800 | 650 | 600 |

### ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 280 | 310 | 280 | 330 | 310 | 330 | 290 | 310 |
| 1 дойчмарка | 150 | 175 | 150 | 175 | 180 | 190 | 180 | 190 |
| 1 рубель Расіі | 12 | 13 | 12 | 13 | 11 | 12 | — | — |

# ШЛЯХ ДА БОГА



## За Беларусь нашу молімся

Да Царквы, пазней да Беларускай нацыянальнай царквы, ішла я доўга і пакутліва. Шлях гэты, прызнаюся, не завершаны. Тыя гады, калі мяне, як і большасць юнакоў і дзяўчат, выхоўвалі ў атэізме камсамол, а пасля КПСС, не маглі не стварыць дысгармонію ў маёй душы. Але ж тое, што мае бацькі мяне ахрысцілі і ў дзіцячыя гады мая слаўная бабуля Насця вадзіла мяне ў царкву, не магло не прабіцца тым парастачкам, які з цягам часу нешта мяняў унутры мяне. Ён трывожыў мяне...

І вось я ў царкве. Пасля некалькіх дзесяцігоддзяў я ў царкве. Слава Госпаду Богу, Слава Ісусу Хрысту! Не раз была ў споведзі, прычашчалася.

Не толькі па вялікіх святах — Вялікадні, Ражастве Хрыстовым, Тройцы Святой і г. д. — наведвала храм Божы. Мне хочацца ісці туды і маліцца — размаўляць з Госпадам Богам, давяраць яму мае думкі, прасіць прабачэння за мае правіннасці, прасіць ягонай міласці. Хвіліны яднання з Богам невыказныя. Немагчыма знайсці тыя адзіныя словы, якія б дакладна перадавалі стан душы. Скажу толькі: ён цудоўны, узвышаны. Становіцца лёгка, так лёгка і светла, і зямная мітусня наша ўжо мала што значыць. Бо сапраўды: мы —часовыя вандроўнікі на гэтай, такой грэшнай зямлі.

Непаўторныя хвіліны перажыла я падчас свята нашай парафіі — Жыровіцкай іконы Божае Маці. Пасля святочнай службы мы, прыхаджане, слухалі барда — творцу і выканаўцу складзеных ім самім духоўных і патрыятычных песень — Яўгена Савельева, артыста Віцебскага тэатра. Ён спяваў пра Бога і Радзіму, пра мілую Беларусь нашу. Ліліся з душы юнака песні, і нашы душы ляцелі, ляцелі... І — раптам: "Паехалі ў Жыровічы!"

Жыровіцкая зямля. Святая зямля, дзе некалі тут, на грушцы, з'явіўся абраз Божае Маці. Мы маліліся ў царкве, былі ў захаваных уніяцкіх храмах. Маліўся і наш госць, Яўген. Як ён маліўся! Яго аблічча — нібы з нябёсаў істоты. Мы гаварылі з Богам паўнюткі дзень. Якое ж гэта было свята!

А для мяне асабіста яно працягвалася і ўначы. Радкі, ліліся з душы маёй радкі...

### Маліся, юнак

На свята парафіі —
Жыровіцкай іконы
Божае Маці —
Скарыў маё сэрца
Вандроўнік-юнак.
Яго паланянкай
Стала я,
Старая жанчына,
З капой валасоў,
Аздобленых інеем.
Худзенькі юнак
З танклявымі пальцамі
Разам з гітарай
У неба ляцеў.
І клікалі струны
Нашыя душы
Да Бога нябачнага
Да Ісуса Хрыста:
— Збавіцелю, збаў нас,
Даруй нас, няслушных,
Дай руку, Настаўнік,
Ойча і строгі суддзя.
Дай руку, наш Лекар,
Чуеш: трапечуцца,
Святлеюць як душы
Ад дотыку рук,
Тваіх, Госпадзе, рук.
Дай моцы, дай сілы,
Уладару наш нябесны,
Любві тваёй
Хоць крохельку дай.
Дай нам цярпення
З расінаку хоць бы,
Самы цярплівы
З усіх людзей — дай!..
А струны ўздыхалі,
І плакалі струны,
І рваліся сэрцы,
Грэшныя сэрцы
З грэшных цел.
Дзе ты, вандроўнік,
Што сэрцы трывожыш,
Што душы вярэдзіш,
Дзе ж ты, юнак?!
Мо ў Бярэсці,
Можа ў Бярозе?
Мо ў капліцы
З гітарай прысеў?..
І славу пяеш
Усявышняму славу.
І молішся Маці,
Жыровіцкай Маці,
Ва ўлонні якой
Сусвет цэлы
Змясціўся.
...Маліся, юнак.

*Н. ЧЫКІТА, г. Івацэвічы.*

## Православный календарь

**ФЕВРАЛЬ**

6 — Блаженной Ксении Петербургской, Христа ради юродивой (XIX).

7 — Собор новосвященномучеников и исповедников Российских от безбожной коммунистической власти убиенных.

11 — Святителя Лаврентия, затворника Печерского, епископа Туровского, в Ближних пещерах (1194).

12 — Собор вселенских учителей и святителей Василия Великого (379), Григория Богослова (389) и Иоанна Златоустого (407).

13 — Вселенская Родительская (мясопустная) суббота. Память совершаем всех от века усопших православных христиан, отец и братий наших.

15 — Сретение Господа нашего Иисуса Христа. С этого дня и по 21 февраля — седмица сырная (масленица), сплошная, в среду и пятницу разрешается вкушение молока и яиц.

16 — Святителя Симеона, епископа Полоцкого, епископа Тверского (1289).

18 — Иконы Божией Матери, именуемой "взыскание погибших" (1707).

22 — Начало Великого поста.

25 — Иверской иконы Божией Матери (X), Святителя Алексия, Митрополита Московского и всея России, чудотворца (1378). День тезоименитства Святейшего Патриарха Московского и всея Руси Алексия II.

26 — Преподобного Стефана, в иночестве Симеона, царя Сербского, Мироточивого (1200).

28 — Торжество православия.

## 130 распятых Христов,

**исполненные неземных мук и страданий, молча взирают на посетителей со стен одного из залов Львовской картинной галереи**



Собрал, а фактически спас эту коллекцию от неминуемой гибели хранитель галереи Игорь Михайлович Хомин. Около тридцати лет было отдано поискам распятий по разрушенным храмам, заброшенным часовням, склепам, кладбищам. В годы тотального атеизма все они были обречены на уничтожение, медленное умирание от сырости, древоточцев, злой руки, как не соответствующие государственной идеологии. Никому не было дела до того, что многие из распятий являются подлинными произведениями искусства. Под умелыми руками древних мастеров дерево оживало, наполняясь болью и чувствами Умирающего На Кресте. Итогом длительных поисков, кропотливой работы по сохранению, реставрации распятий и стала эта коллекция, которая насчитывает сегодня более трехсот деревянных скульптур.

Отрадно, что труд И. М. Хомина не пропал даром и получил, наконец, должную оценку и признание. А выставка распятий готовится сейчас на некоторое время к переезду в один из музеев г. Кракова.

*Н. СИНКЕВИЧ (фото автора).*



## Мы верим. Кому, почему и как?

Трудно сегодня найти человека, который вообще ни во что не верит. Времена атеизма канули в лету, люди начали читать Библию и задавать много вопросов. Книга всех времен и народов и сегодня остается самой читаемой.

Но почти на каждом углу можно встретить факты, доказывающие, что многие верят в сверхестественное, с удовольствием читают гороскопы и предсказания "ясновидящих". Поэтому приходится удивляться не безверию людей, а их легковерию, вере в то, во что трудно поверить здравомыслящему человеку. Где-то прочитали про НЛО, и начинаем утверждать, что чуть ли не сами обедали с инопланетянами. Прочитали в газете, что Бога нет потому, что Его никто не видел. И тоже стоим на этом.

Но в людях заложено стремление искать более глубокий духовный смысл жизни, хоть они его часто теряют. Понимают ли они правильно, что такое вера в Бога и чем она отличается от веры Богу, кто такой Бог, какой Он и знает ли истину слова Божьего? Это важные вопросы и здравомыслящий член общества должен знать на них ответ.

В том случае, когда люди не понимают Божьего откровения в Библии, они сомневаются, часто ошибаются и верят в необыкновенные, странные вещи. В Библии мы читаем: "Вера от слышанья, а слышанье от слова Божия" (Рим. 10:17). Но слово говорится и теми, кто служит тёмным силам. Ведь словом можно вылечить, дать надежду или убить.

Но есть и те, кто открыто выступают против Бога. Это — атеисты и сатанисты. Особенно активизировались сатанисты и во многих городах Беларуси они устраивают бесчинства и доходят до открытых угроз церквям и их служителям. Свободу совести некоторые поняли как вседозволенность.

В последние годы в странах СНГ виден новый всплеск проблем, которые связаны с появлением религиозных культов, групп и течений,проповедующих лжеучения. Мы помним, как с самого детства нас учили быть октябрятами, пионерами, комсомольцами. В ВУЗах изучали труды Ленина, и только немногие позволяли себе сомневаться в этой "истине".

Многие идеи приходят к нам и владеют нами, иногда долгое время. Некоторые ищут смысл своей жизни, хотят понять истину, а на самом деле блуждают по лабиринтам неверия.

Тем не менее, истина совсем рядом. Можно твердо сказать, только Христово Евангелие является Божьей истиной и его благовествование ведет к спасению души каждого верующего. Евангелие одно дано для всех, Библия сегодня доступна всем, а учений и толкований много. Почему?

К сожалению — это результат работы сатаны. Мир поклоняется ему. Этот невидимый обольститель и лжец много чего предлагает человеку. Приняв предложение сатаны, люди уходят в пьянство, ищут наркотики, занимаются воровством и развратом. Рушатся семьи, дети остаются сиротами.

Мы уже пережили культурную революцию, сексуальную, движение панков, металлистов, а теперь переживаем сатанистов. Этот культ связан с жертвоприношением птиц, животных, детей и взрослых людей. Сегодня существуют сатанинские церкви, служители которых, отвергая свою причастность к уголовным преступлениям, призывают жить по принципам сатаны. Вы зайдите в книжный магазин и вы увидите: открыто лежат книги, пропагандирующие этот культ.

Уместно спросить: нужно ли пробовать яд, чтобы убедиться, что он таковым является. Ведь результат — смерть. Как оградить молодежь, детей от культа насилия и вседозволенности, чтобы они не бросали семьи, не приносили человеческих жертв? Сегодня я просто убежден, возрождение Беларуси как страны европейской культуры, белорусов как нации начнется через духовное возрождение, основанное на Евангелии.

Давайте немного коснемся той стороны нашей жизни, где сатана имеет сегодня успех. Как это происходит? Несколько примеров. 1988—1990 г. Жители СССР регулярно подвергаются аккультной бомбардировке с экранов телевизора, выполняемой Кашперовским и Чумаком. Характерно, что оба они мало сообщают о теоретической подоплеке своей деятельности. Несмотря на то, что очень многие ученые, медики, духовенство отрицательно высказывались по поводу такого рода телесеансов, нашлось достаточное количество людей (в том числе образованных), которые одобряли этих "целителей" и были готовы дать все, что они просили.

Другой пример. Учитель в школе на родительском собрании говорит, что дети стали неуправляемые, жестокие, неуважительные. А одна мама говорит в ответ: они же все время проводят у телевизора и видео, а там сплошное насилие, жестокость, разврат. Действительно, как, позвольте спросить Вас, дорогие люди, юной душе остаться здравомыслящим членом общества, где научиться отличать оригинал от подделки?

Детская душа впитывает как губка все, что видит. Является ли моя семья, являюсь ли я для своего ребенка авторитетом, видит ли он во мне пример? Я хочу, чтобы каждый задал себе вопрос: чувствую ли я ответственность перед будущим, что я сегодня делаю для того, чтобы мои дети завтра были здоровы физически и морально, жили лучше?

*А. КНЫШ. г. Ивацевичи.*

# ПОЖИВЁМ — УВИДИМ с 30 по 31 января

## СУББОТА, 30

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Континент.
8.15 Столица.
8.40 Потребительская корзина.
9.00, 15.00 Новости.
9.15 "Змеиный источник". Худ. фильм.
10.45 Здоровье.
11.10 Вершина мира.
11.35 Компьютерный полигон.
12.00 "Все нормально, мама!"
12.35 "Легенда о Вильгельме Телле". Сериал.
13.30 Мини-футбол. Кубок Беларуси. Финал. 2-й тайм.
14.25 Олимп.
15.10 Уроки Н. Новожиловой.
15.35 Приглашаем на вечерки.
16.10 Познай себя.
16.30 Бон-тон.
17.00 Ток-шоу "Это моя работа".
17.30 "Успех". Худ. фильм.
19.00 Творческий вечер пианиста Аркадия Эскина.
19.40 "Из достоверных источников".
20.05 Бездельник.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Спортлото.
21.50 "92 градуса в тени". Худ. фильм.
23.20 Белорусский хит-парад.
23.35 Видимо-невидимо.
0.15 Хоккей. Чемпионат Восточно-Европейской лиги. "Полимир" (Новополоцк) — "Беркут-ПВО" (Киев). 3-й период.

### ОРТ

6.50 "Лёгкая жизнь". Комедия.
8.30 Домашняя библиотека.
8.45 Слово пастыря.
9.00, 14.00, 17.00 Новости.
9.15 "Ералаш".
9.45 "Утренняя почта".
10.20 "Каламбур".
10.50 Смак.
11.10 Возвращение Третьяковки.
11.35 "Песни года".
12.35 "Город принял". Детектив.
14.15 "Цивилизация".
14.50 В мире животных.
15.30 Умники и умницы.
15.55 Мультфильм.
16.15 Как это было.
17.15 Клуб "Белый попугай".
18.00 "Ералаш".
18.20 "Человек в железной маске". Худ. фильм.
20.00 Время.
20.50 "Секретные материалы".
22.30 Новости спорта.
22.45 "Мыс страха". Триллер.

### Канал "Россия"

7.00 "Чужие дети". Худ. фильм.
8.10 Мультфильмы.
9.00 Доброе утро, страна.
9.50 "Сто к одному". Телеигра.
10.30 Любовь с первого взгляда.
11.00 Подиум д'АРТ.
11.30 Домашние хлопоты.
12.00 "Неделя в Санта-Барбаре". Телесериал.
13.00, 19.00 Вести.
13.30 Фигурное катание. Чемпионат Европы. Спортивные танцы.
14.55 50х50: Буду звездой!
16.00 "Федеральной службе по телевидению и радиовещанию — пять лет". Праздничный концерт.
17.00 Моя семья.
18.00 Национальный музыкальный фестиваль "Площадь звезд-99".
19.35 Праздничный концерт, посвященный Дню работника российской прокуратуры.
21.15 "Мутанты". Худ. фильм.
23.05 Фигурное катание. Чемпионат Европы. Женщины.
0.25 Скорость.

### НТВ

7.00 Мультсериал.
7.25 Мультфильм.
7.40 "Два долгих гудка в тумане". Детектив.
9.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.15 Криминал. "Чистосердечное признание".
9.45 Впрок.
10.00 "Пойми меня".
10.30 "Старый телевизор".
11.15 Профессия — репортер.
11.30 Своя игра.
12.00 Хоккей. ЦСКА (Москва) — "Северсталь" (Череповец).
14.30 "Русский век".
15.20 Сериал "Она написала убийство".
16.15 Суд идет.
17.00 Дог-шоу "Я и моя собака".
17.30 Герой дня без галстука.
18.40 "Никаких проблем". Худ. фильм.
20.30 "Итого".
21.40 "Американский дедушка". Комедия.
23.00 "Про это".

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 31

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 "Города мира". Док. сериал.
8.30 "Сколько нас в Беларуси".
8.40 Потребительская корзина.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 "Все дело в шляпе".
9.35 "Навстречу".
9.50 Мультфильм.
10.10 Туробъектив.
10.35 "Все нормально, мама!"
11.10 Международные спортивные новости.
11.30 Арсенал.
11.55 Сделано в Беларуси.
12.10 Марсово поле.
12.25 "АРТ-клуб".
12.50 Сериал "Легенда о Вильгельме Телле".
13.45 "Сельчане".
14.10 "Важная фигура". Телеспектакль.
14.30 Станция "Академия наук".
15.10 "Мисс "Силач-98".
15.50 Семейный телеканал "На волне взаимопонимания".
16.30 Зорная ростань.
17.00 Телебарометр.
17.20 "Миллион — одному". Худ. фильм.
18.55 Теленавигатор.
19.15 Стадион.
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 "Карамболь".
21.25 "Генеалогия преступления". Мистическая драма.
23.15 Премьера песни.
23.25 Автопарк.
23.35 Вольная борьба. Чемпионат Беларуси.

### ОРТ

7.00 "Штепсель женит Тарапуньку". Комедия.
8.15 Мультфильм.
8.30 "Русалочка".
9.00, 14.50 Новости.
9.15 "Непутевые заметки".
9.30 Пока все дома.
10.05 Утренняя звезда.
11.00 Армейский магазин.
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 Крестьянские ведомости.
12.30 "Все путешествия команды Кусто". Сериал.
13.25 Смехопанорама.
13.55 Футбол. Кубок чемпионов стран Содружества-99. Финал.
15.55 "Тимон и Пумба", "Аладдин".
16.50 Клуб путешественников.
17.40 "Колесо истории".
18.30 "За двумя зайцами". Комедия.
20.00 Время.
20.35 "В смертельной зоне". Боевик.
22.25 Футбольное обозрение.
22.55 Новости культуры.
23.15 "Поющие под дождем". Комедия.

### Канал "Россия"

7.00 Мультфильмы.
7.30 Служу Отечеству!
8.00 Мультфильм.
8.30 Почта РТР.
9.00 Доброе утро, страна!
9.30 Сам себе режиссер.
10.05 "Аншлаг" представляет.
11.00 Русское лото.
11.40 Мир книг с Леонидом Куравлевым.
12.00 "Неделя в Санта-Барбаре".
13.00 Вести.
13.30 Федерация.
14.10 Парламентский час.
15.15 Папа, мама, я — спортивная семья.
16.00 Диалоги о животных.
17.00 Фигурное катание. Чемпионат Европы. Показательные выступления.
19.00 Зеркало.
19.55 "Американская дочь". Мелодрама.
21.40 "Перпендикулярное кино".
22.40 Дежурная часть.
23.05 "Элемент преступления". Худ. фильм.

### НТВ

7.00 "Я, бабушка, Илико и Илларион". Худ. фильм.
8.30 "Старый телевизор".
9.00, 11.00, 15.00 Сегодня.
9.15 "Американский дедушка". Комедия.
10.35 Мультфильм.
11.15 Большие деньги.
11.40 "Трое в лодке, не считая собаки". Комедия.
14.00 Жизнь замечательных зверей.
14.30 "Русский век".
15.20 "Ключи от форта Байяр".
17.00 Итоги. Предисловие.
17.40 "Без компромиссов". Боевик.
19.45 Куклы.
20.00 Итоги.
21.00 "Ее звали Никита". Сериал.
22.00 Итоги. Ночной разговор.
22.30 "Дюна". Фантастический боевик.

ПОСТ ДАІ

# Спаць у шапку не давядзецца

Пачну з лічбаў. Летась у раёне адбыліся 44 дарожна-транспартныя здарэнні. 21 чалавек загінуў, 40 — атрымалі раненні. У параўнанні з 1997 годам стала менш: здарэнняў — на восем, загінуўшых — на сем, параненых — на дзевяць чалавек. Толькі адна аварыя здзейснена п'яным вадзіцелем. Пазалетась іх было дзве.

Такая статыстыка. Праўда, нікога яна не радуе. Пакуль будуць загінуўшыя і пакалечаныя, да таго часу гэтую статыстыку можна лічыць сапраўды сумнай.

Якія ж віды здарэнняў перавышаюць? Па-першае, гэта сутыкненне транспартных сродкаў. Такіх выпадкаў было 13. Па-другое, наезд на пешаходаў. У 11 аварыях перш за ўсё яны і пацярпелі. У два разы ў параўнанні з 1997 годам павялічылася колькасць апракідванняў. Іх зарэгістравана восем. Былі таксама наезды на веласіпедыстаў, на гужавы і аўтатранспарт, а таксама сутыкненне на чыгуначным пераездзе.

Вядома, што ў кожным парушэнні ёсць свае прычыны. Аналіз паказаў, што асноўнымі прычынамі дарожна-транспартных здарэнняў з'яўляюцца: выезд на левы бок дарогі (9 выпадкаў), перавышэнне хуткасці (7), праезд перакрыжаванняў (4) і парушэнні правілаў руху пешаходамі (7 выпадкаў).

Асобна хочацца сказаць пра дзіцячы дарожна-транспартны траўматызм. Летась у параўнанні з папярэднім годам ён зменшыўся больш як у тры разы. У трох аварыях адно дзіця загінула і двое атрымалі цялесныя пашкоджанні.

Усё гэта, так сказаць, канстатацыя тых аварый і здарэнняў, што адбыліся. А што ж на працягу года рабілі нашы работнікі, чым яны займаліся? Гэта, відаць цікавіць нашых жыхароў.

Работнікі дзяржаўтаінспекцыі пастаянна вядуць нагляд за рухам транспарту і пешаходаў, а таксама прафілактычную работу ў калектывах і проста з асобнымі вадзіцелямі.

Летась да адміністрацыйнай адказнасці за розныя парушэнні правілаў дарожнага руху прыцягнена 27336 чалавек, у тым ліку 607 за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення. У параўнанні з 1997 годам было выяўлена на 7008 парушальнікаў больш.

З ліку ўсіх парушэнняў правілаў дарожнага руху 21006 на рахунку індывідуальных уладальнікаў транспарту, у тым ліку 452 за кіраванне транспартам у нецвярозым стане! Вось з кім яшчэ прыдзецца шмат працаваць і працаваць, каб дабіцца станоўчых вынікаў.

Дарэчы, 168 чалавек пазбаўлена вадзіцельскіх правоў, 41 — аштрафаваны, 46 матэрыялаў накіравана ў раённы суд на паўторнасць.

Акрамя нагляду за рухам транспарту і пешаходаў, супрацоўнікамі групы ДАІ раскрыта 11 злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку, прынялі ўдзел у раскрыцці яшчэ 19 злачынстваў, выяўлены ўдзельнікі двух угонаў транспарту, разгледжаны 43 матэрыялы па дарожна-транспартных здарэннях.

У школах і працоўных калектывах праведзена 592 гутаркі, 24 матэрыялы змешчаны ў друку, абследавана 30 аўтагаспадарак, зроблена 156 праверак перад выхадам транспартных сродкаў з гаража, накіравана кіраўнікам 24 падпісанні.

Усе названыя лічбы і факты сведчаць аб штодзённай напружанай рабоце ўсіх супрацоўнікаў дзяржаўтаінспекцыі. А сёлета, думаецца, гэтай работы таксама будзе шмат. Толькі пачаўся новы год, а ўжо першыя здарэнні (нават са смяротным зыходам) зарэгістраваны на нашых вуліцах і дарогах. Так што, як кажуць, спаць у шапку не давядзецца.

*А. АРЦЁМЧЫК,*
*старшы дзяржаўтаінспектар групы ДАІ Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

# ГАРАСКОП 25.01—31.01

**АВЕН (21.3—20.4)**
Надышоў час паклапаціцца аб добрым самаадчуванні. Пачатак тыдня прынясе набыткі, неабходныя для фарміравання іміджу і ўмацавання здароўя, таму не вельмі смуткуйце з-за непрадбачаных грашовых трат. У сярэдзіне тыдня паназірайце за тым, як вы перадаеце свае ўражанні, як валодаеце мовай.

**ЦЯЛЕЦ (21.4—20.5)**
У пачатку тыдня вашыя веды здольны камусьці дапамагчы. У сярэдзіне вы, хутчэй за ўсё, здолееце паспяхова ўжыць сваю эрудыцыю і ўменне размаўляць. У канцы тыдня гэтыя ж здольнасці прынясуць поспех у прафесійнай сферы. Пастарайцеся гэтыя пару-тройку дзён не прадпрымаць непамяркоўных дзеянняў.

**БЛІЗНЯТЫ (21.5—21.6)**
Тыдзень для вас з'явіцца пачаткам перыяду прапрацоўкі сямейных адносін, хатніх клопатаў, а таксама работы з тымі псіхалагічнымі праблемамі, якія дагэтуль перашкаджалі вашаму жыццю. У пачатку тыдня прыйдуць новыя разуменні, магчымасці актыўнымі справамі нешта змяніць у вашым доме да лепшага. У сярэдзіне тыдня пастарайцеся не пераносіць узнікаючыя на працы турботы ў сям'ю.

**РАК (22.6—22.7)**
Пачынаецца перыяд распрацоўкі пытанняў, звязаных з маёмасцю і грашовай сферай, атрыманнем захапленняў і самаацэнкай. У пачатку тыдня вы, верагодна, здолееце атрымаць карысную інфармацыю і нават чамусьці падвучыцца. У сярэдзіне тыдня няблага было б паклапаціцца аб утульнасці ў доме. Наогул, сярод хатніх вы, не выключана, знойдзеце душэўны спакой. Канец тыдня дазволіць рэалізаваць разумныя ініцыятывы.

**ЛЕЎ (23.7—23.8)**
Не выключана, што ў вас пачаўся перыяд псіхалагічнай адарванасці ад знешняй мітусні. У першай палове тыдня абавязкова скарыстайце пазіцыю назіральніка, каб пазбегнуць грашовых непрыемнасцей. У другой палове тыдня, верагодна, будзе добрая магчымасць паназіраць за сваёй таварыскасцю і здольнасцю правільна афармляць уласныя думкі, пастарайцеся добра ўзважваць свае дзеянні і словы.

**ДЗЕВА (24.8—23.9)**
Тыдзень будзе звязаны з філасофскім абмеркаваннем рэчаіснасці, культурным, а таксама рэлігійна-маральным развіццём, падарожжамі. У пачатку тыдня з гэтых пазіцый прыйдзецца адзначыць сваю вагу ў грамадстве, аўтарытэт і здольнасць браць на сябе адказнасць. У сярэдзіне тыдня падумайце пра свае адносіны з сябрамі, магчыма ўдалае выкананне раней састаўленых планаў і задумак. У канцы тыдня можа з'явіцца жаданне пабыць сам-насам з сабою.

**ШАЛІ (24.9—23.10)**
Тыдзень адкрые чарговы перыяд жыццёвага развіцця, які, верагодна, будзе звязаны з прапрацоўкай адносін з сябрамі, калегамі, аднадумцамі і планаў на далейшае жыццё. У пачатку тыдня можа ўзнікнуць адчуванне адмежаванасці ад маючага адбыцца — спрыяльны момант для незалежнай адзнакі сваіх жыццёвых планаў ды зносін. У сярэдзіне тыдня неабходна паклапаціцца аб добрым самаадчуванні і знешнім выглядзе. Канец тыдня прынясе поспех у грашовых справах і атрыманні ўсялякіх захапленняў.

**СКАРПІЁН (24.10—22.11)**
На працягу ўсяго тыдня зоркі раяць вам быць акуратнымі ў справах асабістага характару. Вельмі небяспечна дэманстраваць як залішнюю таропкасць, так і неадпаведную пэўным сітуацыям непаваротлівасць. Пастарайцеся таксама неператамляцца. выкарыстоўвайце разумную ініцыятыву пры адстойванні ўласных інтарэсаў і праў. Пазбягайце адкрытай агрэсіі, "удараў ніжэй пояса".

**СТРАЛЕЦ (23.11—21.12)**
Што б ні здарылася з вамі напачатку і ў сярэдзіне тыдня — заставайцеся ў пазіцыі пабочнаг назіральніка за з'явамі. Аб'ектыўнасць, якую прынясс такая тактыка паводзін, дапаможа зберагчы ўласныя жыццёвыя сілы і спакой у недарэчнасцях, звязаных з кар'ерай і аўтарытэтам. У другой палове тыдня за размовамі аб знешнім выглядзе не забывайце рэальна паклапаціцца пра сваё здароўе.

**КАЗЯРОГ (22.12—20.1)**
Дзеянні, накіраваныя на ўзмацненне грамадскага стану і ўласнага аўтарытэту, "захлынуцца" з-за баязлівасці ды ляноты ў праяўленнях ініцыятывы. У першай палове тыдня пастарайцеся застацца вернымі сваім жыццёвым пазіцыям. У другой палове не бойцеся дзейнічаць на свае страх і рызыку.

**ВАДАЛЕЙ (21.1—19.2)**
Паклапаціцеся, каб планаванне будучага не было "замарожана", а адносіны з сябрамі не сапсаваліся з-за рэзкіх змен жыццёвых прынцыпаў і светаўспрымання. Праявіце належную інтэлектуальную гібкасць і памяркоўнасць, каб абысці ўсялякія перашкоды. У другой палове тыдня карысна пабыць сам-насам з уласным сумленнем і дакладна абмеркаваць падзеі апошніх дзён.

**РЫБЫ (20.2—20.3)**
Вырашэнне празаічных, на першы погляд, хатніх і сямейных пытанняў запатрабуе ад вас кемлівасці і некаторай навізны. У сярэдзіне і канцы тыдня вас чакаюць унікальныя магчымасці атрымання раней не вядомых задавальненняў і асалод. Зразумела, пры ўмове, што вы здолееце па-новаму зірнуць на сваю чарговую захопленасць і пойдзеце на рызыку.

Пярвічная арганізацыя Беларускага таварыства інвалідаў горада Косава выказвае глыбокае спачуванне старшыні Касаўскага гарсавета Хінко Тамары Пятроўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці **БРАТА**.

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 2 друк. аркушы.
Падпісана да друку 22 студзеня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас".
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас", вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон 8 (245) 2-12-29.



Тыраж 3.800.
Заказ 104.